ГОСТИНАЯ "НАРОДНОЙ ГАЗЕТЫ"

# Вы что, Жака не знаете?..

Елена МОЛОЧКО

***Наконец-то я познакомилась с этим человеком! Многие годы его имя было как наваждение. Прихожу к литераторам: "Хорошо, если б этим занялся сам Жак..." Еду с режиссерами: "Вот был бы рядом с нами Жак..." В самых неожиданных местах: "Вы что, Жака не знаете?" А то вдруг родной отец как-то в разговоре сообщает: "Однажды Вознесенский прислал нашему Жаку стихи телеграммой прямо из Италии". Тут уж я подхватилась: "Объясни, как это все соединяется: политехнический, Вознесенский и Жак? Почему он такая знаменитость?"***

***Почему — в двух словах объяснить оказалось невозможно. Или, вернее, если в двух словах, то так: дар Божий. У человека талант любить людей. Поэты посвящали Жаку стихи. Прозаики вспоминали его в своих мемуарах. Только художники еще не писали его портрет. Между прочим, жаль. Благородное, светлое лицо...***

Виктор Герасимович Жак — ученый, педагог. Больше тридцати лет преподает в Политехнической академии. Но есть у него еще одна профессия или, вернее, призвание. Сейчас таких людей мы с уважением величаем продюсер. А раньше просто говорили: общественник. Так вот, Виктор Герасимович — общественник мирового класса, в политехническом его называют "наш белорусский Юрок". (Для справки: Юрок — знаменитый продюсер, который организовывал первые гастроли Большого театра СССР в США.) Виктор Жак организовывал не менее знаменитые гастроли. В нашем политехническом, да и вообще в Минске в 60—70—80-е годы благодаря ему такие знаменитости выступали! Андрей Вознесенский, Евгений Евтушенко, Расул Гамзатов, Андрей Дементьев и даже Герман Титов. И с каждым именем, естественно, связана у Виктора Герасимовича какая-нибудь особенная история...

Послушаем Виктора Жака.

## Нет дороги — иди в педагоги

В пятидесятых в нашем обществе был культ инженера, технаря. Поэтому мое первое образование — физико-математическое. Но натура взяла свое, и в аспирантуре я стал изучать педагогику. В 63-м оказался на преподавательской работе в политехническом на только что образованном инженерно-педагогическом факультете. Ну, тогда политехнический считался элитным вузом! Вся лучшая профессура — там. На инженерно-педагогический они, конечно, смотрели снисходительно: мол, нонсенс — среди точных наук какая-то лирика. Но постепенно наш факультет стал-таки центром притяжения всего института. Клуб интересных встреч, который у нас там работал (теперь это даже звучит архаично, да?), приобрел популярность на весь вуз. Ну, так ведь какие имена наших гостей: Вознесенский, Евтушенко... Они тогда еще не были всенародно признанными, официозом обласканными поэтами. Флер скандальности витал вокруг их имен. После ввода советских войск в Чехословакию Евтушенко, например, прямо по почте послал в ЦК партии телеграмму: "Я, автор стихов "Хотят ли русские войны", протестую..." У Вознесенского как у "формалиста" тоже были стычки с властью: на его имя в периодике был негласный запрет. Но нелегальность в нашей стране — это лучшая реклама. Домашний телефон Вознесенского я нашел по справочнику Союза писателей, когда был в командировке в Москве. Позвонил поэту, познакомился. По молодости не было неудобства или страха. Отношения наши завязались естественно, и уже в ноябре 1969 года Андрей приехал по моему приглашению в Минск, выступал у нас в политехническом, а на следующий день — я договорился — в филармонии. Залы — переполнены публикой.

Это были годы какого-то феноменального интереса общества к поэтическому слову. И сама советская поэзия блистала в те годы... Через год Вознесенский снова приехал в Беларусь — мы отдыхали вместе на Свитязи. И когда в 1975 году вышел его знаменитый сборник "Дубовый лист виолончельный", Андрей подарил его мне с такой подписью: "Виктор, люблю тебя. Если бы не ты — не было бы этой книги. Спасибо тебе". А экспромт, о котором вы спрашиваете, по поводу номера моего домашнего телефона — 24-53-17 — это он сочинил уже позже: "Вам телефон поставили, как светлую мечту: смерть Ленина и Сталина в семнадцатом году". Вскоре номер домашнего телефона мне заменили...

Евгений Евтушенко приехал в 1970 году в Минск сам — привез в "Неман" свою поэму. Редактировал журнал Андрей Макаенок. Макаенок, естественно, тоже выступал у нас в политехническом — в 1973-м. Блестяще! Читал сцены из своих пьес — и лучше актера, скажу вам. Мы подружились семьями на долгие годы... Да, так про Евтушенко. Я, когда узнал, что поэт у нас в городе, решил: грех не зазвать его в политехнический! Но ректор Ящерицын колеблется — знает, что за ту телеграмму Евтушенко еще не прощен. Говорит мне: "Нет, не можем принять Евтушенко у себя. У нас зал на ремонте". В филармонии тоже отказ — боятся. Я тогда бегом в Белсовпроф. А там разрешили! За всеми, видать, горком уследить не мог, в общем, кагэбэшники-шалопаи пропустили мимо внимания этот зал. Вечер поэзии состоялся. Конечно, в первых рядах — студенчество политехнического. Говорят, что Слюньков (он тогда работал в горкоме партии) узнал о выступлении за час до начала. Приказал: "Выключить в зале свет!" Помощники развели руками: "Евтушенко читает свои стихи на память..."

## Вера и традиции

Я вырос в деревне под Новогрудком. Шла война, и детство свое я помню как-то очень обостренно. В нашей деревне были улицы Варшавская, Татарская, Заломанка. Рядом с нами, белорусами, жили поляки, евреи, татары. Евреи по субботам иногда прибегали к нам и просили почистить морковку или еще чем помочь: им в этот день по вере возбранялось работать. Мы смеялись, но чистили, помогали. В общем, жили большим общим домом, но "адметнасць" свою белорусы не теряли, потому что тоже свято чтили собственные традиции и праздники. И каким бы передовым комсомольцем и атеистом ни делали меня школа, вуз, армия, а когда пришло время хоронить батьку, я по обычаю крест в руки взял, священника в дом пригласил...

Русского языка я не знал, пока не поступил в институт. Поэтому до сих пор он для меня как бы язык официальных встреч и разговоров. А для задушевных бесед — конечно, родной белорусский. Раньше я чувствовал, что коллеги-преподаватели смотрят на меня с досадой, когда я на ученом совете порой заговаривал по-белорусски. Это воспринималось как фрондерство, инакомыслие. Впрочем, тогда преподаватель и бороду не мог носить — тоже считалось слишком богемно и даже распущенно. Кто теперь вспоминает те запреты? Разве что к слову, для анекдота...

## Белорусы — поэтическая нация

В 1960 году до аспирантуры я несколько лет работал в Городищенском районе (был такой) профсоюзным лидером. Организовывал всякие смотры и декады. Однажды позвонил в Минск, в Союз писателей и пригласил Пилипа Пестрака, Рыгора Бородулина и Петра Приходько. Пригласил, а сам не надеюсь, что приедут столичные гости в нашу глухомань. Тогда это было архисложно: пересадка ночью в Барановичах, несколько часов ожидания поезда на вокзале... Приехали! Людей в Доме культуры — битком. Люди наши, по-моему, очень отзывчивы на поэтическое слово, и вообще белорус любит задушевную беседу. Ну, хорошо, 57-й год, скажете вы, еще телевизоров в домах не было, а сельчане тем более были не избалованы концертами и вечерами. Но через 22 года, когда Ахмадулина приехала в Каменецкий район к председателю Бедуле, ведь то же самое — зал битком. Опять аншлаг! Нет-нет, белорусы — поэтическая нация...

А с Ахмадулиной была целая история. Шел 1979 год, пик брежневщины. Зато поэзия была квинтэссенцией духовной жизни общества. Звоню Белле Ахмадулиной. Знаю, что уже вышел в США журнал "Метрополь" с ее стихами, что за это "своеволие" Белла без промедления была наказана — в Москве ее не печатают, не издают. Имя под запретом. Тем не менее звоню, предварительно договариваюсь о вечере поэзии в политехническом. Белла соглашается. Но ректор непреклонен: "Нет!" Бегу в филармонию: "Нет". И в Белсовпрофе на этот раз: "Нет". Я вздрогнул. Звоню в Москву: "Беллочка, прости, все залы на ремонте..." Слышу на том конце провода тихое всхлипывание: "А я все равно приеду!.." Утро, вокзал. Кто встречает Ахмадулину? Студенты, я и Евгений Будинас. Он — известный публицист, а главное — друг знаменитого председателя колхоза из Каменецкого района Бедули. Евгений звонил ему накануне, и Бедуля, Герой Социалистического Труда и вообще талантливый человек, без обиняков ответил по телефону: "Мой зал не хуже филармонического. Приезжайте. Я "Метрополь" не читал, а Беллу знаю". Вот так Ахмадулина оказалась в белорусской деревне. Потом с восхищением рассказывала, что был полный зал, что люди пришли семьями, как говорится, со старыми и малыми, что она читала не только свои стихи, но и Цветаеву, Ахматову, Пушкина. На обратном пути в поезде ее тоже узнали — и опять стихи, стихи. Из поезда офицерство выносило Ахмадулину на руках...

А на следующий день нас пригласил к себе Василь Быков. Мы подходим к его дому, а Василь Владимирович стоит на балконе и, как только приближаемся, бросает Белле под ноги розы...

## КГБ и кожаная куртка

Расул Гамзатов в Минск приезжать любил и никогда не отказывался выступить в политехническом перед студентами. На его вечер обычно приходили и все институтские чины — незапятнанный поэт, друг Брежнева! Но он был далеко не простачком... Мог себе позволить пощекотать нервы партийцам. "Вы думаете, что если я в белой сорочке, то, значит, перед вашим руководством белый флаг выкинул?.." — это он "острил" со сцены, но ему, понятно, все сходило. Но интересно, что и меня КГБ никогда не трогало. Может, кагэбэшники тоже любили нашу поэзию? По крайней мере, я думаю, они тоже тайно зачитывались диссидентством. Но за границу меня, конечно, ни разу не выпустили. На заседании парткома, где должны были утвердить однажды мою характеристику для поездки в Польшу, ректор вдруг спрашивает: "А где вы, Виктор Герасимович, купили кожаную куртку? В магазинах у нас их не достать..." Отказали... Потом секретарь парткома встретил в коридоре и говорит: "Что тебя, Виктор, тянет в Польшу? Я вот отдыхаю, например, в деревне и очень доволен. И тебе рекомендую". Впрочем, эти досадные минуты не могли испортить мне жизни. Я и Быкова приглашал в самые "непопулярные" его годы, когда он еще в Гродно жил. И Алесь Адамович успел выступить в нашем актовом зале. Правда, на следующий же день в ЦК пошла "телега": 50 коммунистов в своем письме докладывали, что Адамович назвал партию идеологической полицией... Но это уже были годы перестройки. Телега катилась вниз, и ничто ее не могло остановить. Зато имя Адамовича — это целая страница в гражданском воспитании нашего студенчества! А я всегда считал, что если вузовец за пять лет учебы хоть пару раз встретится с поэтом, с гражданином, хоть на несколько минут затаит дыхание не перед страхом за свою шпаргалку, а от прекрасных стихов, от светлой мысли, от благородного слова — значит, я свою миссию выполняю.



❏ *1994 год — Андрей Вознесенский и Виктор Жак.*

**Снимок из архива Виктора Жака.**